ГРОДНА
№7 (582),
3 красавіка 2022

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Кошык са свянцонкай. Што павінна ў ім быць




*Кожная з размешчаных у велікодным кошыку рэчаў мае ўласны сімвал.*

*на старонцы* 2

## Мсцібава. Суровая прыгажосць




*Нарманскі стыль касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Мсцібаве пакідае ўражанне, што знаходзішся на суровых Брытанскіх астравах.*

*на старонцы* 4

## Нельга набыць, не страціўшы



*Пра феномен назарэтанак на беларускай зямлі.*

*на старонцы* 6

# ДЛЯ АБ'ЯДНАННЯ МОЛАДЗІ. АБ СВЯТКАВАННІ ПАЛЬМОВАЙ НЯДЗЕЛІ Ў ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




*Даўняя традыцыя – новае ўвасабленне*

**Высокія вербы, паднесеныя ўгору, хістаюцца на фоне старадаўніх алтароў, карцін, ікон і сцен катэдральнага касцёла. Уся святыня запоўнена людзьмі. Цэнтральную частку касцёла – ад дзвярэй да алтара – разам з гараджанамі займае моладзь, трымаючы гэтыя самыя вялікія вербы. У калонках жа гучыць голас ксяндза біскупа Аляксандра.**

*на старонцы* 3

# "ТОЕ, ШТО НЕ БЫЛО ЗНІШЧАНА Ў ВЫНІКУ ПАЛІТЫКІ РАСІЙСКІХ УЛАД, ЗНІШЧЫЛІ САВЕЦКІЯ"




*Працэсія ля касцёла ў Солах, 1970-ыя гады (прыватны архіў Л. Франюк)*

**Гісторык Раіса Зянюк распавядае, праз што прыйшлося прайсці Каталіцкаму Касцёлу на беларускіх землях у XX стагоддзі. Забароны, рэпрэсіі, закрыццё касцёлаў і кляштараў, высылкі ў лагеры і фізічнае знішчэнне католікаў.**

*на старонцы* 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!



*Наперадзе нас чакае асаблівы час – Вялікі тыдзень, які распачынаецца Нядзеляй Мукі Пана. Глыбокае перажыванне і разуменне Вялікага тыдня дазваляе адкрыць сэнс жыцця, вярнуць надзею і веру. Адны толькі Велікодныя святы, без сапраўднага перажывання дзён, якія ім папярэднічаюць, не стануць для нас часам пераходу ад смерці да жыцця, мы не зразумеем вялікай Божай любові да кожнага чалавека.*

*Гэта цудоўны дар Касцёла, які можа ўзбагаціць нашу сям'ю і наблізіць нас да Хрыста. Дзякуючы глыбокаму перажыванню Вялікага тыдня, паглыбленню ў таямніцу Божай любові, маем шанс сапраўды аднавіць сваю веру і навярнуцца да Бога.*

*Калі Езус Хрыстус з'яўляецца нашым Панам і Збаўцам, на якім мы хочам будаваць жыццё, на якога ўскладаем усе надзеі, то не будзем абыякавымі да таго, што Ён здзейсніў, спазнаў і перажыў за гэтыя 3 вырашальныя дні – Вялікі чацвер, Вялікую пятніцу і Вялікую суботу.*

*Пасхальны Трыдуум – гэта больш, чым падзея, якая адбылася 2 тысячы гадоў таму. Гэта больш, чым набажэнства, на якое я пайду, перажыву (ці не) момант узрушэння, а потым вярнуся ў сваю штодзённасць. У падзеях Пасхальнага Трыдуума я мушу ўбачыць праўду пра ўласнае жыццё.*

*Дарагія Чытачы, жадаю Вам у першую чаргу добрага, поўнага веры перажывання Вялікага тыдня, а ўжо потым – смачнага яйка!*

ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**3 красавіка**
***V Нядзеля Вялікага посту.***

*У Вялікім посце мы часта глядзім на крыж – вялікую таямніцу веры. Праз гэты позірк у нас павінна нарадзіцца ўпэўненасць, што справядлівы Бог з'яўляецца нашым прытулкам. Ні грэх, ні смерць, ні любая іншая перашкода не стануць праблемай для Таго, хто палюбіў нас да канца і мае ўладу правесці нас праз любую пустыню. Калі трываем у Хрысце, слёзы і цяжкасці больш не маюць апошняга слова ў нашым жыцці. Божае жаданне – змяніць наш лёс, каб праз прабачэнне мы перажывалі спакой і радасць.*

*У V Нядзелю Вялікага посту крыжы і выявы Езуса прыкрываюцца да заканчэння літургіі Мукі Пана ў Вялікую пятніцу, каб нанова адкрыць таямніцу Хрыстовага крыжа ў нашым жыцці.*

**7 красавіка**
***Першы чацвер месяца.***

*Першы чацвер з'яўляецца днём Эўхарыстыі, і таму гэта, найперш, час падзякі. У ім мы дзякуем за найвялікшы цуд, але таксама за Касцёл і ўсё, што спрые нашаму збаўленню. Найлепшае ўшанаванне гэтага дня – прыняцце св. Камуніі ў духу падзякі за атрыманыя дары. Варта прысвяціць час на адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту або ахвяраваць Камунію за тых, хто па розных прычынах не мае доступу да св. Імшы. Гэта яшчэ дзень удзячнасці за дар святарства, а значыць і малітвы за святароў: аб іх трыванні ў добрым, годным здзяйсненні святых абрадаў, а таксама аб новых пакліканнях да служэння ў Касцёле.*

**10 красавіка**
***Нядзеля Мукі Пана (Пальмовая нядзеля).***

*Шостая нядзеля Вялікага посту называецца Пальмовай, або Мукі Пана, і распачынае святкаванне Вялікага тыдня. У гэты дзень адбываецца абрад асвячэння пальмаў. Пальмовая нядзеля ўсё больш набліжае нас да настрою Пасхальных свят. Касцёл заахвочвае нас не абмяжоўвацца радасным маханнем вербачкамі і ўскрыкваннем: "Гасанна Сыну Давіда!", але паказвае дарогу яшчэ далей – у Вячэрнік, дзе "хлеб сышоў з неба". Затым ён уводзіць у цёмны Гефсіманскі сад, дазваляе адчуць драму зняволенага і пакінутага Езуса, дае пакаштаваць смак Яго пакут у прэторыі Пілата і Яго непрыняцця чалавекам. Нарэшце ён заклікае нас прайсці ўвесь шлях да самай вяршыні Галгофы. Хрысціянін не можа раўнадушна прайсці міма Хрыста, які вісіць на крыжы, ён мусіць застацца да канца, пакуль усё не споўніцца. Затым павінен дапамагчы зняць Езуса з крыжа, мець адвагу зірнуць у вочы Маці, якая трымае на руках цела Сына, і пасля ўсяго прываліць цяжкі камень да магілы. А потым яму застаецца толькі чакаць Вялікай ночы.*

# КОШЫК СА СВЯНЦОНКАЙ. ШТО ПАВІННА Ў ІМ БЫЦЬ

працяг са с. 1




**Набліжаецца Вялікая субота. У гэты дзень у нашых святынях традыцыйна асвячаем стравы, якімі ў каталіцкіх сем'ях распачынаецца ўрачысты сняданак пасхальнай раніцай. Усе элементы свянцонкі ўспрымаюцца як Божыя дары і павінны прыгадваць пра важныя матэрыі, патрэбныя, каб плённа разважаць Муку і Уваскрасенне Хрыста.**

**ЯГНЯ З ХАРУГВАЙ**

Знак уваскрослага Хрыста. На харугве змешчаны крыж і надпіс "Алелюя", які выражае радасць ад перамогі Жыцця над смерцю і пераадолення граху. Сімволіка ягняці мае глыбокія біблійныя карані. У Старым Запавеце гэта ўцёкі яўрэяў з Егіпта, калі ізраільцяне пазначалі дзверы сваіх дамоў крывёю спажытага ягняці (параўн. Зых 11–12), а таксама характарыстыка Слугі Яхвэ ў прарока Ісаі (параўн. Іс 53).

У Новым Запавеце – момант, калі Хрыстос быў названы Баранкам Божым (параўн. Ян 1, 29), пасля чаго ў Вялікую пятніцу Ён збавіў людзей цаной уласнай крыві (параўн. Ян 19). Велікоднае ягня з'яўляецца таксама сімвалам паслухмянасці, нявіннасці і ахвяры.

**ЯЙКА**

Старажытны сімвал новага жыцця. У міфалогіі яйка звязана з 4-ма стыхіямі: шкарлупіна – зямля, абалонка – паветра, жаўток – агонь, а бялок – вада. Яно з'яўляецца знакам пачатку жыцця і адраджэння. Падобна як велікоднае ягня, сімвалізуе трыумф Жыцця над смерцю. Успрымаецца таксама як метафара ўтоенага жыцця і сілы існавання. Некалі яек не спажывалі на працягу ўсяго Вялікага посту, і яны вярталіся на сталы толькі на Вялікдзень. Дзяленне асвечаным яйкам мае братэрскі характар і служыць умацаванню сямейных сувязей.

**СОЛЬ**

Напамін наказу Хрыста аб тым, што мы як Яго вучні павінны быць "соллю зямлі" (параўн. Мц 5, 13–16). Гэты жыццядайны мінерал спадарожнічае чалавеку са спрадвечных часоў. Надае стравам смак, а дзякуючы кансервацыйным уласцівасцям захоўвае іх ад псавання. З'яўляецца сімвалам жыцця, самай сутнасці існавання, маральных і духоўных сіл, ачышчэння і праўды.

**ВЯНДЛІНА**

Сімвал ягняці, якое ізраільцяне забівалі, каб адзначыць свята Пасхі. У мінулым, калі мяса спажывалі час ад часу, таму што было дарагім, яно лічылася знакам дастатку. У кошык са свянцонкай звычайна ўкладаем кавалак шынкі ці каўбасу.

**ХЛЕБ**

Памятка размнажэння хлеба ў пустыні, якім Езус накарміў сваіх слухачоў. Сімвалізуе спажытак для душы, г. зн. Цела Хрыста, які сказаў аб сабе: "Я – хлеб жыцця. Хто прыходзіць да Мяне, не будзе галодны..." (Ян 6, 35) – і штодзённую ежу для цела, неабходную для жыцця, што знайшло адлюстраванне ў малітве "Ойча наш" (параўн. Мц 6, 11). Хлеб таксама з'яўляецца знакам Пераісточання, здзейсненага ў прысутнасці апосталаў у вячэрніку. Выражае жаданне прыняцця св. Камуніі. У той жа час хлеб – гэта сімвал поспеху, дастатку і сытасці. Для асвячэння дастаткова адрэзаць толькі кавалак, які пазней спажывём падчас велікоднага сняданку.

**ПЕЧЫВА**

Знак майстэрства, таму лепш за ўсё, калі гэта хатняя выпечка – выраз нашых уменняў. Печыва таксама з'яўляецца сімвалам неаформленай матэрыі, пераўтворанай у дасканалую форму. Яго салодкасць – узнагарода за трываласць у самаўтаймоўванні падчас Вялікага посту і звеставанне Нябеснага Валадарства: "Пакаштуйце, які добры ёсць Пан" (Пс 34, 9).

**СЫР**

Знак сувязі паміж чалавекам і прыродай. Заахвочвае да ўдзячнасці за спажытак, атрыманы ад жывёл, і да пашаны да іх.

**ХРЭН**

Сімвал горычы Мукі Пана – з-за вострага смаку і здольнасці выклікаць слёзы. Азначае фізічную моц, чалавечыя сілы і жыццяздольнасць.

***Сярод элементаў свянцонкі могуць таксама быць іншыя прадметы (розніцы вынікаюць з рэгіянальных традыцый):***

**вада** – сімвал Святога Духа;
**перац** – сімвал горкіх зёлак;
**зайчык** – сімвал пладавітасці і адраджэння прыроды;
**куранятка** – сімвал новага жыцця *(некалі казалі, што Хрыстос устаў з магілы, "як кураня з яйка")*.

# ДЛЯ АБ'ЯДНАННЯ МОЛАДЗІ.
## АБ СВЯТКАВАННІ ПАЛЬМОВАЙ НЯДЗЕЛІ Ў ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

працяг са с. 1

Кацярына Паўлоўская

*"Тэта былі гады дзевяностыя: 93-ці, можа, 94-ты год – першыя пальмовыя працэсіі з пабернардынскага касцёла да катэдры"*, – распавядае аб пачатках святкавання Пальмовай нядзелі ў Гродзенскай дыяцэзіі ксёндз канонік Антоній Грэмза, шматгадовы душпастыр моладзі, які таксама некалькі разоў прымаў удзел у арганізацыі ўрачыстасці.

У 1986 годзе Святы Айцец Ян Павел ІІ прызначыў Пальмовую нядзелю Сусветным днём моладзі ў Каталіцкім Касцёле на дыяцэзіяльным узроўні. Адказам Гродзеншчыны было ўрачыстае святкаванне гэтага дня. *"Усе гродзенскія парафіі ўдзельнічалі, моладзь з'язджалася з розных мясцін: з Ваўкавыска, Ліды, Сапоцкіна... Прыязджалі з ксяндзамі, душпастырамі моладзі, прывозілі свае вербы. Іх асвячалі на ўзгорку: усе паднімалі вербы, радаваліся, спявалі песні, а пасля з біскупам ішлі ў катэдральны касцёл на Імшу. Гэта быў такі Дзень моладзі на ўзроўні дыяцэзіі"*, – узгадвае ксёндз Антоній.

Як далей распавядае душпастыр, традыцыя стварэння вялікіх пальм з'явілася не адразу. Спачатку моладзь мела маленькія вербы, а пасля кожная парафія пачала рабіць сваю асобную, вялікую, якая адрознівалася чымсьці арыгінальным ад іншых. На ўзгорку пабернардынскай святыні, дзе перад працэсіяй збіралася ўсе ўдзельнікі ўрачыстасці і дзе яны сустракаліся з ксяндзом біскупам, адбываўся невялікі канцэрт і асвячэнне пальм. Затым ужо ў катэдральным касцёле пасля св. Імшы выступалі розныя калектывы, з увагі на Вялікі пост, спявалі песні малітоўныя, песні праслаўлення. Была радасць як сімвал таго, што сабраліся маладыя, шчаслівыя людзі, якія хочуць ісці за крыжам.

Як дадаткова адзначае ксёндз канонік, прысутнічаў таксама іншы сімвалізм сустрэчы *"Касцёла маладых"* з біскупам як з *"айцом дыяцэзіі"*, які *"збірае моладзь і вядзе яе за сабою да Хрыста"*.

Такая форма святкавання Пальмовай нядзелі захавалася да 2000-ых гадоў і перапынілася пандэміяй каранавіруса. Таксама і Сусветны дзень моладзі на дыяцэзіяльным узроўні папа Францішак, улічваючы розныя меркаванні, перанёс на іншую важную і прыгожую ўрачыстасць – Хрыста Валадара Сусвету.



Сярод моладзі існуе негалоснае спаборніцтва на самую лепшую вярбу

На пытанне, ці адновіцца святкаванне, калі пандэмія суцішыцца, ксёндз Антоній адказвае сцвярджальна і падкрэслівае важнасць аб'яднання моладзі: *"Маладым людзям падабаецца «кіпіш», гэта іх яднае. Таксама мы ўспамінаем тое, што Езус быў прывітаны ў Іерусаліме, хочам прайсці Яго шляхам, каб лепш зразумець Яго Муку і злучыцца з Ім"*.

Як дзеліцца Вольга Сяліцкая, працаўніца партала Grodnensis.by, такое святкаванне Пальмовай нядзелі было для яе добрай традыцыяй і падрыхтоўкай да Вялікадня. Воля не толькі рабіла фотаздымкі ўрачыстасці, але, знаходзячыся ў душпастырстве гродзенскай катэдральнай парафіі св. Францішка Ксаверыя, таксама прымала ўдзел у выбары дызайна, арганізацыі і непасрэдным стварэнні высокай вярбы. *"Я памятаю, як шукалі кветкі для ўпрыгожвання па ўсім горадзе, як па вечарах цэлы тыдзень пасля працы прыбягала рабіць гэтую двухметровую вярбу. Калі пасля вучылася ў іншым горадзе, то спецыяльна на тыдзень раней прыязджала з вучобы"*, – узгадвае Вольга.

# „І ЎБАЧЫЎ БОГ, ШТО ГЭТА ДОБРА".
## СТАРАЗАПАВЕТНЫЯ МАТЫВЫ Ў МАРКАХ

**Кніга Быцця – першая кніга Бібліі – пачынаецца аповедам пра стварэнне свету. Апісанне гэтага працэсу ў Старым Запавеце настолькі пераканаўчае і прыгожае, што стала натхненнем для многіх аўтараў мастацкіх твораў. Пасля іх працы знайшлі адлюстраванне ў марках, сярод якіх, як вядома, сустракаюцца настолькі цікавыя і каштоўныя экземпляры, што яны атрымліваюць сваё месца ў калекцыях філатэлістаў за грошы не меншыя, чым кошт саміх шэдэўраў сусветнага мастацтва.**

Лявон Карповіч

Напрыклад, на блоку, выдадзеным поштай Іспаніі ў 1980 годзе, змешчана рэпрадукцыя знакамітага "Габелена Стварэння" XI стагоддзя. Гэта незвычайна каштоўны і прыгожы твор мастацтва, які захоўваецца ў катэдры іспанскага горада Верона. Узор у выглядзе круга паказвае розныя сцэны стварэння свету і чалавека. Змяшчае таксама цытаты на лацінскай мове з Кнігі Быцця. Круг у сярэдзіне мае выяву



"Габелен Стварэння" – блок пошты Іспаніі, выдадзены ў 1980 г.

Бога Стварыцеля. Вакол яго надпіс: "І сказаў Бог: хай будзе святло. І сталася святло" (Быц 1, 3). Над цэнтральным кругам (на 11 гадзін) самы цёмны сектар прысвечаны "цемры над безданню" перад пачаткам Стварэння. Наступны сектар (на 12 гадзін) адлюстроўвае Дух Божы над водамі. Справа ад яго – стварэнне свету. Сіметрычныя сектары па "экватары": "хай будзе цвердзь" і "аддзяліў ваду". Самы вялікі ніжні сектар – стварэнне істот водных і птушак. Па баках ад яго – стварэнне жывёл ды чалавека і стварэнне жанчыны. Аўтары "Габелена" выказалі не толькі захапленне справай стварэння свету, але і падкрэслілі яе гармонію. Дзякуючы пошце "Габелен Стварэння" стаў больш вядомым, выклікаючы пачуццё ўсведамлення велічы падзеі.



"Стварэнне свету" – маркі пошты Ізраіля, выдадзеныя ў 1965 г.

Існуе шмат марак, якія вельмі маляўніча і сімвалічна перадаюць змест першых старонак Бібліі, хоць пры гэтым і не з'яўляюцца творамі сусветнага мастацтва.

Напрыклад, працэс стварэння свету ілюструюць шэсць марак пошты Ізраіля. На кожнай марцы ў стылізаваным выглядзе адлюстраваны кожны наступны дзень стварэння свету. Пад маркамі знаходзяцца прывебскі з тэкставым абазначэннем дня стварэння на габрэйскай і французскай мове. Тварэнне духоўнага (анёльскага) свету і першаматэрыі. Неба і вада (падзел вод). Суша і мора (абмежаванне вод); раслінасць. Сонца, Месяц і зоркі (для кіравання днём і ноччу). Рыбы і птушкі (каб напоўніць воды і нябёсы). Жывёлы (каб напоўніць зямлю). Мужчына і жанчына (каб клапаціцца аб зямлі і мець зносіны з Богам).

Рэлігійныя матывы ўласцівы і беларускай пошце. Аднак варта адзначыць займальны момант, калі ў 2017 годзе быў распрацаваны, але не прыняты для друку Белпоштай марачны ліст, прысвечаны 500-годдзю перакладу Бібліі Скарыны і 500-годдзю Беларускага кнігадрукавання. У выніку марачны ліст на падставе Гравюры з Бібліі Скарыны з 1519 года пад назвай "Стварэнне свету, або шэсць дзён светабудовы" быў выдадзены ў выглядзе налепак Міжнародным Грамадскім Аб'яднаннем "Згуртаванне Беларусаў свету «Бацькаўшчына»" і Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку.



"Стварэнне свету, або шэсць дзён светабудовы" – праект маркі з марачнага ліста, не выдадзенага поштай Беларусі ў 2017 г.

АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Ватыкан: папскія цэлебрацыі ў бліжэйшыя месяцы

2-3 красавіка папа Францішак здзейсніў Апостальскае падарожжа на Мальту. У Пальмовую нядзелю, 10 красавіка, ён будзе цэлебраваць св. Імшу на плошчы св. Пятра ў Ватыкане. У Вялікі чацвер, 14 красавіка, Святы Айцец правядзе Імшу Хрызма ў базіліцы св. Пятра. На наступны дзень, у Вялікую пятніцу, ён узначаліць літургію Мукі Пана, а затым адправіцца ў Рымскі калізей, дзе правядзе набажэнства Крыжовага шляху.

У суботу, 16 красавіка, у базіліцы св. Пятра Францішак будзе цэлебраваць Велікодную вігілію, а на наступны дзень – у Велікодную нядзелю, 17 красавіка – там жа адправіць Эўхарыстыю і ўдзеліць благаслаўленне Urbi et Orbi. 24 красавіка, у Нядзелю Божай міласэрнасці, Пантыфік будзе цэлебраваць св. Імшу ў ватыканскай базіліцы.

### Рэформа Рымскай курыі: дыкастэрыі замест кангрэгацый

Падчас прэзентацыі новай Апостальскай канстытуцыі Praedicate Evangelium, кардынал Марчэла Сэмерара нагадаў, што тэрмін "кангрэгацыя" як назву структур Рымскай курыі замацаваў папа Сікст V у 1588 годзе ў Апостальскай канстытуцыі Immensa aeterni Dei. Гаворка ішла пра Sacrae Congregationes Cardinalium – Святыя Кардынальскія Кангрэгацыі, бо прадугледжвалася, што ўзначальваць іх змогуць выключна кардыналы.

Цяпер сітуацыя змяняецца: згодна з новай Апостальскай канстытуцыяй, замест кангрэгацый будуць дыкастэрыі. Гэта звязана з тым, што кіраваць імі цяпер змогуць не толькі кардыналы, але ўсе ахрышчаныя: прадстаўнікі духавенства, кансэкраванага жыцця, свецкія вернікі.

### Папа падпісаў тэкст новай канстытуцыі аб Рымскай курыі

Абнародаваны тэкст новай Апостальскай канстытуцыі аб Рымскай курыі і яе служэнні Касцёлу і свету. Назва дакумента – Praedicate Evangelium ("Абвяшчайце Евангелле") – указвае на місійны характар рэформы.

Канстытуцыя была падпісана Папам на ўрачыстасць св. Юзафа, а ўвойдзе ў сілу 5 чэрвеня 2022 года, ва ўрачыстасць Спаслання Святога Духа. Яна складаецца з 11-ці раздзелаў і 250-ці артыкулаў. Дакумент замяніў Апостальскую канстытуцыю Pastor bonus ("Добры пастыр"), якая рэгламентавала дзейнасць Рымскай курыі з 1989 года.

### Малітоўныя інтэнцыі на красавік

**паўсюдная**

Молімся, каб урады і мясцовыя супольнасці падтрымлівалі ўдзел медыцынскіх работнікаў у доглядзе за хворымі і пажылымі людзьмі, асабліва ў самых бедных краінах.

**дыяцэзіяльная**

Молімся аб жывой веры для дзяцей і моладзі, якія рыхтуюцца да прыняцця святых сакрамантаў, а таксама для іх сем'яў.

# У ГРОДЗЕНСКАЙ КАТЭДРЫ АДБЫЎСЯ ЧЫН ПРЫСВЯЧЭННЯ РАСІІ І УКРАІНЫ БЕЗЗАГАННАМУ СЭРЦУ МАРЫІ




grodnensis.by

Біскуп Кашкевіч у гродзенскай катэдры здзяйсняе чын прысвячэння Расіі і Украіны Беззаганнаму Сэрцу Марыі

**25 сакавіка, ва ўрачыстасць Звеставання Пана, у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне прайшло набажэнствы, падчас якога быў здзейснены чын прысвячэння Расіі і Украіны Беззаганнаму Сэрцу Марыі.**

Кс. Юрый Марціновіч

Малітоўная сустрэча распачалася набажэнствам Крыжовага шляху, які ў гэты дзень праводзілі прадстаўнікі душпастырства цвярозасці Гродзенскай дыяцэзіі.

Затым адбылася св. Імша, цэлебрацыю якой узначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Іерарх заахвоціў вернікаў да гарачай малітвы ў інтэнцыі міру ва ўсім свеце, а найперш ва Украіне.

Як заўважыў пастыр Касцёла на Гродзеншчыне, без супакою на зямлі мы не пабудуем будучыню і не будзем абсалютна шчаслівымі.

Завяршылася св. Імша выстаўленнем Найсвяцейшага Сакраманту. Падчас адарацыі біскуп Кашкевіч у духоўнай еднасці са Святым Айцом Францішкам і ўсім Паўсюдным Касцёлам здзейсніў чын прысвячэння Расіі і Украіны Беззаганнаму Сэрцу Марыі.

У гэты дзень чын прысвячэння Беззаганнаму Сэрцу Марыі быў зачытаны ва ўсіх касцёлах Гродзенскай дыяцэзіі, а ў гродзенскім рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі) біскуп Віцебскі Алег Буткевіч падчас адпустовай урачыстасці асвяціў дзве новыя фігуры. Фігура св. Аўгустына, доктара Касцёла, і св. Грыгорыя, Папы, былі змешчаны ў галоўным алтары, пабудаваным некалькі гадоў таму.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**СЛАВАКІЯ.** У Славакіі завяршыліся III Еўрапейскія каталіцкія сацыяльныя дні. Каля 150-ці прадстаўнікоў Касцёла, палітыкаў і навукоўцаў з усёй Еўропы абмяркоўвалі сацыяльныя выклікі і шляхі абнаўлення кантынента. У кантэксце каталіцкага вучэння гаварылася аб праблемах у такіх сферах, як сямейныя і дэмаграфічныя змены, сацыяльна-экалагічныя пераўтварэнні. Першыя Еўрапейскія каталіцкія сацыяльныя дні прайшлі ў 2009 годзе ў Гданьску. Гаспадаром другой сустрэчы стаў у 2014 годзе Мадрыд.

**ПОЛЬШЧА.** Папярэдні прагляд "Рэквіема" ў памяць аб ахвярах COVID-19 адбыўся ў Кракаве ў дамініканскай базіліцы Найсвяцейшай Тройцы. "Рэквіем" напісаў малады кракаўскі кампазітар і выкладчык Папскага ўніверсітэта Яна Паўла II а. Давід Куш OP. Твор быў замоўлены спецыяльна з гэтай нагоды. У базіліцы выступяць Марэк Павэлэк на аргане, Караліна Зялінска – перкусія, Мацей Адамчак – кантрабас, а таксама камерны хор Sancta Trinitas пад кіраўніцтвам кампазітара. Як падкрэсліваюць дамініканцы, у музычнай інтэрпрэтацыі "Рэквіема" спалучаюцца розныя традыцыі: літургічна-малітоўная, падкрэсленая традыцыйным акампанементам хору і аргана, а таксама выкарыстанне царкоўных мадальных гам.

**КАНАДА.** Найстарэйшаму каталіцкаму біскупу ў свеце Ларану Ноэлю ў сакавіку споўнілася 102 гады. Старэйшы біскуп дыяцэзіі Труа-Рыўер у канадскай правінцыі Квебек нарадзіўся ў 1920 годзе ў Сен-Жуст-дэ-Брэтэньер. Прэзбітэрскае пасвячэнне прыняў 16 чэрвеня 1944 года. 25 чэрвеня 1963 года абраны чатырма днямі раней на папу св. Павел VI прызначыў яго дапаможным біскупам Квебека; намінант быў асвечаны 29 жніўня таго ж года. 7 верасня 1974 года Папа прызначыў яго апостальскім адміністратарам дыяцэзіі Гатэрыў, а 8 лістапада наступнага года ён прызначыў 55-гадовага тады іерарха біскупам Труа-Рыўер на паўднёвым усходзе Канады. Біскуп Ноэль сышоў з гэтай пасады 21 лістапада 1996 года, калі яму было больш за 76 гадоў.

**МЕДЖУГОР'Е.** Сакратар па адносінах Святога Пасаду з дзяржавамі арцыбіскуп Пол Рычард Галахер наведаў Меджугор'е. Тут высокі ватыканскі дыпламат меў размову з правінцыялам францішканцаў у Герцагавіне а. Міленка Штэкай. Меджугор'е, размешчанае ў 20 км ад Мостара ў Босніі і Герцагавіне, з'яўляецца – паводле сведчання групы візіянераў – месцам аб'яўленняў Маці Божай, якія адбываюцца з 1981 года. Іх сапраўднасць яшчэ не прызнана Касцёлам. Папа Францішак дазволіў пілігрымкі ў Меджугор'е, пацвердзіўшы душпастырскую каштоўнасць гэтага месца, і ў 2020 годзе ўпершыню напісаў ліст да ўдзельнікаў Міжнароднага фестывалю моладзі. Аднак парафіяльны касцёл у Меджугор'і дагэтуль не мае статусу санктуарыя. Нягледзячы на гэта, да пандэміі штогод сюды прыязджала да 3 мільёнаў пілігрымаў.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# МСЦІБАВА. СУРОВАЯ ПРЫГАЖОСЦЬ

працяг са с. 1

Андрэй Вашкевіч

Аглядаючы каталіцкія святыні заходняй часткі Ваўкавышчыны, заўсёды маеш уражанне, што быццам трапляеш у розныя еўрапейскія краіны. Сярэднявечная готыка Гнезна – і ты недзе ў Цэнтральнай Еўропе, велічная неаготыка Шылавічаў – і быццам апынуўся ў Бельгіі ці Нідэрландах, а вось неараманскі стыль касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Мсцібаве пакідае ўражанне, што знаходзішся на суровых Брытанскіх астравах.

Мсцібава – адзін з самых старых населеных пунктаў Ваўкавышчыны. І хаця згадваецца мястэчка ў 1330 годзе, калі вялікі князь літоўскі Альгерд з дапамогай мсцібаўскай шляхты ваяваў у крыжацкіх Прусах, аднак археалогія паказвае, што мсцібаўскае гарадзішча было закладзена як мінімум на сто гадоў раней. Легенда звязвае яго заснаванне з галіцкім баярынам Мсцібогам, які пасяліўся тут у той час.

Амаль сто гадоў Мсцібавам валодалі прадстаўнікі вядомага ў XV стагоддзі магнацкага літоўскага роду Кезгайлаў. Адзін з іх, Станіслаў Кезгайла, і зафундаваў у 1492 годзе першы мясцовы касцёл. Святыня была багата забяспечана ворнай зямлёй, лугамі і дубровамі, мёдам з кезгайлавых борцяў і грашыма з даходаў мсцібаўскага двара і корчмаў.

Мсцібаўскі двор быў адным з самых багатых у Вялікім княстве Літоўскім. У мястэчку, апрача касцёла, знаходзіліся царква і сінагога, у Мсцібаўскім замку адбываліся генеральныя сеймы ВКЛ. Драўляныя касцёлы мястэчка перабудоўваліся за пяцьсот гадоў пяць ці шэсць разоў і перыядычна гінулі ад пажараў, войнаў ці звычайнай чалавечай нядбаласці.

Апошняя драўляная святыня была адноўлена ў 1850-ых гг. Яна мела вялікі памер (35 х 15 метраў) і была дастаткова высокай (амаль 11 метраў). У касцёле быў арган, асобная капліца св. Мікалая, а ў 1900 годзе перад ім пабудавалі званіцу ў выглядзе брамы, якая вядзе да святыні.

У 1903 годзе мсцібаўская парафіяне звярнуліся да кіраўніцтва Віленскай дыяцэзіі з просьбай аб будаўніцтве новай мураванай святыні. Пачалася справа аб выдачы дазволу на будаўніцтва, якая цягнулася тры гады. Царскія чыноўнікі не спяшаліся з хуткімі адказамі парафіянам. Яны сцвярджалі, што касцёл занадта высокі, што ён будзе нядобра ўплываць на мясцовых праваслаўных, што будоўля не забяспечана адпаведным чынам грашыма і будаўнічымі матэрыяламі. Ініцыятары павінны былі пакласці ў дзяржаўны банк суму роўную палове кошту ўзвядзення касцёла, а другую палову забяспечыць сваёй уласнасцю ці, напрыклад, наяўнымі будаўнічымі матэрыяламі.

У 1910 годзе кс. Марк Бурак пачаў будаўніцтва святыні, заклаў яе падмурак, пабудаваў новую плябанію. Аднак парафіяне хацелі некалькі спрасціць праект касцёла аўтарства архітэктара Юзафа Піюса Дзяконскага, каб зэканоміць крыху сродкаў. Змяненне праекта запатрабавала новых узгадненняў, таму да 1914 года касцёл быў пабудаваны толькі да ўзроўня вокнаў. Пасля Першай сусветнай і Савецка-польскай войнаў будаўніцтва касцёла аднавілі толькі ў 1923 годзе.

Пробашч кс. Марк Бурак і архітэктар Дзяконскі змянялі праект проста ў ходзе будаўніцтва, разважаючы над кожнай дэталлю будучай святыні. Трэба сказаць, што касцёл выйшаў надзвычай гарманічны і ён фактычна не мае аналагаў на нашых землях. Архітэктрунае аблічча мсцібаўскага касцёла суровае і адначасова незвычайнае. Кожны ракурс, з якога аглядаеш святыню, пакідае ўражанне завершанасці і прадуманасці.

Касцёл св. Яна Хрысціцеля быў асвечаны ў 1932 годзе і з таго часу ніколі не закрываўся. Пасля таго, як фашысты расстралялі кс. Бурака, яго замяніў кс. Казімір Валентыновіч, які служыў у парафіі да 1984 года. Не закрылі святыню і пасля смерці апошняга пробашча, а ўжо з пачатку 1990-ых гадоў у ёй ізноў пастаянна адбываюцца богаслужэнні.



А. Вашкевіч

Знешні выгляд парафіяльнага касцёла

# “ТОЕ, ШТО НЕ БЫЛО ЗНІШЧАНА Ў ВЫНІКУ ПАЛІТЫКІ РАСІЙСКІХ УЛАД, ЗНІШЧЫЛІ САВЕЦКІЯ”

працяг са с. 1

*Размаўляў Арцём Ткачук*

***– Якім быў Касцёл на тэрыторыі сучаснай Беларусі неўзабаве перад усталяваннем савецкай улады? Калі казаць пра колькасць: духоўных асоб, касцёлаў, кляштараў, манаскіх ордэнаў, вернікаў.***

– Каб правільна зразумець стан Касцёла непасрэдна перад Кастрычніцкай рэвалюцыяй, трэба закрануць XIX стагоддзе. У канцы XVIII – пачатку XIX стагоддзяў Касцёл знаходзіўся ў нядрэнным становішчы. Аднак у XIX стагоддзі каталіцкія вернікі і духоўныя асобы былі актыўнымі ўдзельнікамі грамадска-палітычных падзей. І калі ўдзел у вайне 1812 года на баку Напалеона некаторым каталіцкім іерархам, духавенству і вернікам прабачылі, то ў далейшых падзеях – не. Пасля масавага ўдзелу духоўных асоб у паўстанні 1830–1831 гадоў улады закрылі палову кляштараў. Пасля паўстання 1863–1864 гадоў перасталі функцыянаваць амаль усе астатнія, за выключэннем трох: двух ў Гродне і аднаго ў Слоніме. У той час закрывалі і касцёлы. Таму на пачатак XX стагоддзя ад Касцёла на нашых землях засталася толькі нязначная частка з таго, што тут існавала 100 гадамі раней.


ТЕЛЕГРАММА.
ПЛАТА. ПЕРЕДАНА
из ВИТЕБСКА
16 Августа 1919 г. №
ПОДАНА
ПОЛОЦК УЕЗДИСПОЛКОМУ
26 августа прибудет Полоцк Комиссия для вскрытия мощей св. Баболя необходимо присутствие представителей Уездисполкома всех волисполкомов срочно об этом распорядитесь Необходим также Полоцкий местный врач 903
Завотуправ [подпись]

Прадстаўлены Р. Зянюк

Дакумент з фондаў Віцебскага абласнога архіва

Аднак у 1905 годзе ў Расійскай імперыі быў прыняты г. зв. “указ аб верацярпімасці”. Ён палепшыў становішча неправаслаўных канфесій. У гэты перыяд пачынаецца масавы прыток вернікаў у каталіцызм (па некаторых падліках – да 200 тысяч асоб). Духавенства не ведала, колькі працягнецца гэтая свабода, і “пад шумок” пачало масавае будаўніцтва касцёлаў.

***– Тады паўстала ўся наша беларуская неаготыка.***

– Так. Краснае, Ракаў, Росіца, Задарожжа, Мёры і шмат іншых. Касцёл свсв. Сымона і Алены ў Мінску ў гэты ж перыяд. Каталікі карысталіся момантам. І вельмі правільна, бо ў 1914 годзе пачынаецца І Сусветная вайна, падчас якой Беларусь была падзелена на дзве часткі, і пра нейкае станоўчае развіццё Касцёла складана казаць.

Далей 1917 год – рэвалюцыя, 1918 – канец І Сусветнай вайны, 1919–1921 гады – Савецка-польская вайна. І ва ўсім гэтым Касцёлу важна было хоць неяк утрымацца.

Ізноў жа, пакуль уладам было не зусім да Касцёла, адраджаецца Мінская дыяцэзія, і нават на некалькі гадоў адраджаецца таксама Мінская духоўная семінарыя. Пасля 1921 года Касцёл на заходне- і ўсходнебеларускіх землях апынуўся ў дыяметральна супрацьлеглым становішчы.

***– Якая частка каталікаў засталася ў складзе Польшчы? Сёння, да прыкладу, лічыцца, што Заходняя Беларусь – гэта палова ўсіх беларускіх каталіцкіх вернікаў і святароў. У той час гэтая прапорцыя была дарэчнай?***

– Збольшага я б пагадзілася з такой лічбай. Трэба разумець, што на той час Каталіцкі Касцёл у Віленскай дыяцэзіі быў у меншай меры “рэфармаваны” ўладамі Расійскай імперыі, чым на ўсходніх тэрыторыях, і меў там мацнейшыя пазіцыі.

***– А колькі святароў да 1939 года засталося дзейнічаць у БССР?***

– Ніводнага. Афіцыйна ніводнага. Усё было знішчана пад нуль. Прытым яшчэ ў пачатку 1937 года там дзейнічала 11 каталіцкіх касцёлаў, а ў 1939 – ужо нуль. Прапаную паглядзець на карту канфесійнага становішча Беларусі ў міжваенны перыяд у 4 томе Вялікага гістарычнага атласа Беларусі. На 1939 год на захадзе няма дзе кропку паставіць ад колькасці канфесій і храмаў, а ў БССР пуста.

***– Сёння Магілёўшчына, Гомельшчына, усходняя Віцебшчына ўспрымаюцца як місійныя тэрыторыі. Наколькі савецкая ўлада паўплывала на скурчанасць каталіцызму на гэтых землях? Ці Касцёл гістарычна быў там такі нешматлікі?***

– Што мы разумеем пад Касцёлам? Структуры там былі моцныя, а вось колькасць вернікаў сапраўды была меншай. Разам з тым, хіба што самы знакаміты беларускі каталіцкі санктуарый да 60-ых гадоў XIX стагоддзя ў той час знаходзіўся на ўсходзе – у Бялынічах. Да Юравіцкага абраза Маці Божай таксама хадзілі пакланіцца на ўсход.

Да 1917 года Касцёл на ўсходніх землях ужо быў моцна аслаблены. Напрыклад, у пачатку XIX стагоддзя ў Мсціславе дзейнічалі кляштары езуітаў, бернардынцаў, кармэлітаў і сясцёр марыявітак. У канцы таго ж стагоддзя застаўся толькі адзін парафіяльны касцёл. А пад канец 30-ых гадоў XX стагоддзя ўжо ніводнага. Таму паўтару свой тэзіс: тое, што да 1905 года не было знішчана ў выніку палітыкі расійскіх улад, знішчылі савецкія.



**Раіса Зянюк – кандыдат гістарычных навук. Даследуе канфесійную гісторыю Беларусі XIX–XX стст.**

Рэпрэсіі ва Усходняй Беларусі пачаліся ўжо з 1918 года. Першай ахвярай стаў магілёўскі дэкан кс. Святаполк-Мірскі – яго расстралялі за контррэвалюцыйную дзейнасць. У 1919 годзе арыштоўваюць віцебскае духавенства, спробы біскупаў заступіцца не мелі вынікаў. У 1920-ых гадах пачынаюцца прысуды да высылкі, аднак тэрміны яшчэ не былі вялікімі ў параўнанні з пазнейшым перыядам. Пасля вяртання з лагераў частка духавенства з’язджала з БССР. У 1930-ых пачынае рэалізавацца “вышэйшая мера пакарання”.

***– То-бок, падзел на ўсходні і заходні беларускі Касцёл гэта таксама справа рук савецкай улады?***

– Зноў жа, залежыць ад таго, што разумець як Касцёл. У пытанні прадугледжваецца наяўнасць двух Касцёлаў, а фактычна мы кажам пра адзін: той, які існаваў на заходнебеларускіх землях. На захад ад Друі, Глыбокага, Краснага, Ракава, Нясвіжа, Баранавіч рэгістрацыі святароў дапускаліся, на ўсход – не. Напрыклад, колькі пасля 1945 года мінскія вернікі не змагаліся за адкрыццё касцёла і рэгістрацыю супольнасці, выніку не было. Толькі да Алімпіяды 1980 года адкрылі касцёл на мясцовай Кальварыі, каб прадэманстраваць гасцям, што вернікі ўсіх канфесій маюць роўныя правы. Да таго моманту, выкарыстоўваючы розныя падставы, аніводзін касцёл у Мінску не быў адкрыты. Пры гэтым улады самі ўсведамлялі, што парушаюць дзеючае савецкае заканадаўства.

Адпаведна, рэалізацыя такой палітыкі паспрыяла таму, што пераемнасць традыцыі на ўсходзе была амаль ушчэнт перарваная. Канешне, былі свецкія вернікі, якія захоўвалі сваю каталіцкую ідэнтычнасць і да пэўнага моманту шмат рабілі. Магілёўцы, напрыклад, доўга змагаліся за вяртанне касцёла. Аднак праз нейкі час стала зразумелым, што няма шансаў на дазвол, і змаганне сціхла да 1980-ых гадоў.

***– Ёсць такая думка, што 20-гадовае знаходжанне ў складзе Польшчы ўратавала каталіцызм Заходняй Беларусі. Што калі б тамтэйшы Касцёл трапіў у БССР ужо ў 1921-ым, то ад яго б мала што засталося. Пагодзіцеся?***

– Не ведаю, як каталіцызм, але дзякуючы таму перыяду структуры Касцёла былі ўратаваны дакладна. Мала таго, што ўратаваныя, дык яшчэ пашыраныя і ўмацаваныя. Да ўжо існуючай сеткі парафій далучыліся ордэны, якія існавалі тут раней (напр. езуіты, місіянеры, кармэліты, піяры, шарыткі), і дадаліся новыя (напр. салезіяне, капуцыны). І ў гэтым сэнсе знаходжанне ў міжваеннай Польшчы наш Касцёл ўратавала. Разам з тым, былі сур’ёзныя нацыянальныя і моўныя праблемы, але іх цяпер не будзем закранаць.

Гісторыя не ведае ўмоўнага ладу. Мы не можам дазволіць сабе фантазіраваць “што было б, калі б”. Але калі меркаваць па аналогіі, структур і інстытутаў Касцёла на заходнебеларускіх землях, хіба што, не існавала б. Пра вернікаў складана казаць.

Таму на заходніх тэрыторыях каталіцкая традыцыя фактычна захоўвалася і перажыла СССР. Рызыкну меркаваннем, што за савецкі перыяд усходні Касцёл не ператрываў, а заходні – на працэнтаў 30. Яшчэ адно рызыкоўнае меркаванне: на мой погляд, у цяжкія часы захаваць ідэнтычнасць значна прасцей, чым у лёгкія.

***– Чаму савецкая ўлада не знішчала Касцёл на захадзе гэтак жа актыўна, як зрабіла гэта на ўсходзе? Што іх стрымлівала?***


ТЕЛЕГРАММА. КОПИЯ.
ПЛАТА. ПЕРЕДАНА
из
23/VI 1919 г. №
ПОДАНА
ПЕТРОГРАД
Епископу Цепляку
Ксендза Ожала Дзядуля арестованы Губчрезвычкомом заложниками Беспокоиться здоровье нечего сделано распоряжение неприменении тюремного режима Телеграфируйте что Вами предпринято прекращению польским Правительством расстрелов невинных граждан наших товарищей преданных рабочекрестьянской власти облегчению участи тысяч граждан томящихся тюрьмах Вильны прочих городах занятых поляками 176
Товпредгубисполкома/подписал/ Бородулин
Верно: делопроизводитель [подпись]

Прадстаўлены Р. Зянюк

Дакумент з фондаў Віцебскага абласнога архіва

– Магчыма, у пасляваенныя часы былі іншыя прыярытэты: адбудова гаспадаркі і г. д. Заходнебеларускія землі неабходна было працягваць інтэграваць у савецкую рэчаіснасць. Таксама пасля вайны ў СССР было ўведзена новае заканадаўства адносна рэлігійных культаў. Быў створаны вядомы да сённяшняга дня інстытут Упаўнаважанага па справах рэлігійных культаў (па справах рэлігій). Да таго пытаннямі парушэнняў усіх галін права займалася НКУС, а рэалізацыяй палітыкі – мясцовыя органы ўлады, што вызначала меры ўздзеяння.

Па-другое, Заходняя Беларусь працягвала заставацца памежжам, таму ўладам важна было захаваць хаця б нейкую бачнасць талерантнасці. Для прыкладу, у Брэсце касцёл доўга не закрывалі, бо ўлады не хацелі нейкіх радыкальных дзеянняў у прыгранічным горадзе. А па-трэцяе, захад быў карцінкай нібыта існуючых рэлігійных свабод, якія былі прапісаны ў Канстытуцыі СССР.

***– Калі параўнаць па розных паказчыках дасавецкі Касцёл у Беларусі і сучасны, ці мы ўжо хаця б прыкладна выйшлі на той узровень? Ці, можа, ужо яго пераraслі?***

– Вельмі складана параўноўваць, бо сёння мы гэта робім у межах Беларусі і паводле сучасных гістарычных умоў. А “дасавецкі час” – гэта вельмі неаднародныя перыяды і рэгіёны. Сёння мы кажам пра Каталіцкі Касцёл Беларусі, а раней гэта быў Каталіцкі Касцёл у Расійскай імперыі або ў Польшчы.

Калі казаць пра структуры, то мы, канешне, выйшлі на дасавецкі ўзровень і нават перавысілі яго па шэрагу параметраў. Для прыкладу, сёння ў нас 4 дыяцэзіі, а ў XIX стагоддзі тэрыторыя Беларусі ўваходзіла ў склад 3-ох. У першай палове XIX стагоддзя на гэтых тэрыторыях было 3 духоўныя семінарыі, а ў 1905 годзе не было ніводнай – выхадцы з нашых земляў вучыліся ў Вільні ці Пецярбургу. Сучасная сетка дэканатаў таксама колькасна перарасла дасавецкую, як і лічба манскіх ордэнаў і кангрэгацый.

Што да колькасці вернікаў, то складана параўноўваць: раней канфесійную прыналежнасць чалавек атрымліваў фактычна па ўмаўчанні, кожная асоба належала да нейкай Царквы, а сёння гэта найчасцей пытанне выбару, што сутнасна змяняе магчымасць такога параўнання.

# НЕЛЬГА НАБЫЦЬ, НЕ СТРАЦІЎШЫ

працяг са с. 1

**Кангрэгацыя сясцёр назарэтанак у Беларусі перажыла дзве сусветныя вайны і савецкія атэістычныя часы. Пры гэтым у самы складаны перыяд нашай гісторыі яна нават здолела накіроўваць навіцыюшак з Гродна ў Штаты, каб падсілкоўваць духоўна амерыканскіх вернікаў. У 1990-ыя гады кляштар запоўніла вялікая хваля пакліканняў. І хоць цяпер кангрэгацыя ў Беларусі не такая вялікая, як можна было спадзявацца пасля перамен “адлігі”, яна застаецца самай шматлікай у краіне.**

**Пра прызнанасць Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям’і з Назарэта на нашых землях, яе буйны росквіт і запавольванне гэтага працэсу размаўляем з Правінцыяльнай сястрой Беларускай правінцыі назарэтанак Філатэяй Ціхановіч CSFN.**

*Размаўляла Ангеліна Марцішэўская*



***– Сястра Філатэя, адкуль Вы даведаліся пра сясцёр назарэтанак? Ці разглядалі іншыя варыянты жаночых манаскіх супольнасцей, калі планавалі ўступіць у кляштар?***

– Я паходжу з Гродна – горада, дзе сёстры назарэтанкі служылі здаўна, без перапынку ў час ваеннага перыяду. У 1990-ыя гады, калі мне было 18, я пачала хадзіць у касцёл, стала актыўна ўдзельнічаць у жыцці пабернардынскай парафіі, дзе на той момант манахіні не толькі служылі, але і жылі. Адна з іх рыхтавала мяне да прыняцця Першай св. Камуніі. Таму можна сказаць, што сясцёр я ведала з самага пачатку свайго духоўнага шляху. Аднак вялікую ролю ў станаўленні мяне як духоўнай асобы адыграла кармэлітка – с. Тэрэза ад Дзіцятка Езус. Яе дзённік быў маёй настольнай кнігай. І манаскае жыццё я ўяўляла менавіта такім, якім яго апісвала с. Тэрэза – закрытым, недаступным для вока іншага чалавека. Адпаведна, калі ў мяне ўзніклі думкі пра кляштар, я хацела далучыцца да супольнасці сясцёр кармэлітак. Але на тэрыторыі Беларусі іх кляштара не было, а ехаць у Польшчу не падавалася добрай ідэяй, бо мову я ведала дрэнна. Таму і ўступіла ў тую супольнасць, якая “была пад рукой”. Я добра камунікавала з сёстрамі назарэтанкамі, а іх настаяцельніца ўвогуле дапамагла мне раскрыць сваё пакліканне і ўпэўніцца ў ім падчас асабістых размоў.

***– Наколькі ўвогуле былі вядомыя сёстры назарэтанкі на момант Вашага ўступлення ў кляштар?***

– Дастаткова вядомыя. У 1994 годзе, калі я далучылася да супольнасці сясцёр, яны служылі ў Гродне, Навагрудку, Шчучыне, Лідзе і даязджалі ва ўсе навакольныя вёскі. Ды і дзяўчаты, што прыйшлі ў кляштар раней мяне, паходзілі ў асноўным з Гродзеншчыны. Шмат пакліканняў, якія нарадзіліся ў 1970-1980-ыя гады, – таксама пакліканні нашых зямлячак. Мяркую, гэта можа сведчыць пра тагачасную актуальнасць назарэтанскай місіі.

***– Ці ўплываў прыклад 11-ці сясцёр мучаніц з Навагрудка і с. Малгажаты Банась на “папулярнасць” кангрэгацыі ў Беларусі?***

– Прыклад с. Стэлы і яе паплечніц – гэта радыкальны прыклад жыцця Евангеллем. І я ўпэўнена, што ён прыцягвае маладыя сэрцы, бо маладзёны патрабуюць, яны шукаюць каштоўнасцей і сведкаў Хрыста. І гэты прыклад даў свой плён ды працягвае яго прыносіць.

Аднак з уласнай гісторыі хачу сказаць, што калі я ішла ў кляштар, мяне прыцягваў выключна Езус, я імкнулася проста развіваць з Ім адносіны. Пра подзвіг 11-ці сясцёр мучаніц я даведалася, будучы ўжо ў супольнасці назарэтанак.

***– На Вашу асабістую думку, чаму ў 1990-ыя гады назарэтанкі ў Беларусі сабралі столькі пакліканняў? У той час навіцыят налічваў па 10-15 чалавек…***

– Мне вельмі падабаецца выказванне, што пакліканні ёсць там, дзе ёсць жывая вера. Калі ў савецкія часы Касцёл перажываў ганенні, людзі захоўвалі веру ва ўласных дамах, супольнасцях. Іншымі словамі, хоць святыні былі зачынены, сведкаў Хрыста было шмат. Гэта і прынесла рэзультат, бо людзі бачылі ўзор для пераймання. І калі з’явілася такая магчымасць – вернікі пайшлі ў кляштар. Не з-за традыцыі, а з-за жывой веры.

У маёй сям’і не было хрысціянскага прыкладу, але калі падчас “адлігі” я трапіла ў касцёл, Бог акружыў мяне людзьмі жывой веры і я таксама пачала Яго шукаць. І пасля ўва мне нарадзілася жаданне прысвяціць жыццё Хрысту. І як я ўжо казала, выбар паў на больш блізкі кляштар. Думаю, так было ў многіх выпадках.

***– Як мяркуеце, чаму так “выстраліла” кангрэгацыя назарэтанак менавіта ў нашым рэгіёне?***

– Гродзенская зямля духоўна багатая, яна песціла хрысціянскія каштоўнасці і традыцыі менавіта праз сем’і. А харызма Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям’і з Назарэта кажа сама за сябе – гэта клопат пра сем’і. Магчыма, тут ёсць пэўныя суадносіны.

***– Што адчувалі сёстры ў той час, ідучы ў кляштар? Ці было гэта прадчуванне імпульсіўнага развіцця супольнасці? Якая панавала атмасфера?***

– Эйфарыя, вясна і надзея на адраджэнне! Было бачна, што і настаяцелі адчувалі тое самае. Нездарма пачаўся рамонт у доме ў Навагрудку, будова дома ў Гродне. Сясцёр запрашалі ў парафіі па-за Гродзеншчынай: у Івянец, Маладзечна, Мінск. Карацей кажучы, панаваў вельмі радасны настрой. Мы меркавалі, што нас, сясцёр, будзе сапраўды шмат. Сотня! У выніку аказалася інакш. Напрыклад, разам са мной да супольнасці далучылася 11 чалавек, а на дадзены момант з іх у служэнні засталася толькі я.

***– Як Вы ацэньваеце тое, што значная частка асоб сышла? Гэта страта для кляштара ці натуральны працэс?***

– Складана даць адназначны адказ. Хтосьці вырашыў паспрабаваць, ці мае пакліканне да манаскага жыцця. Зразумеў, што не, і сышоў. Для кляштара гэта не з’яўляецца стратай у тым сэнсе, што асобы, якія сышлі, атрымалі добрую духоўную фармацыю. Яна пасля дапамагла ім стварыць цудоўныя моцныя сем’і. Нашы сёстры дагэтуль утрымліваюць кантакт з гэтымі сужэнствамі, а некаторыя са згаданых сем’яў з’яўляюцца для манахінь добрай сувяззю са свецкай супольнасцю. Напрыклад, адна сям’я заўсёды дапамагае ў арганізацыі паломніцтваў. Тым больш за перыяд, што былі разам у кляштары, мы ўзаемна ўзбагаціліся духоўна, шмат чаго набылі адзін ад аднаго.

З другога боку, гэта свайго роду страта, бо сёння мы не можам ахапіць тыя служэнні, пра якія нас просяць: заняцца хворымі, нямоглымі людзьмі. Для гэтага нас замала.

***– У параўнанні з мінулымі гадамі, чаму сёння так запаволіўся рост пакліканняў у кляштар назарэтанак? Як гэта супаставіць з сучаснай сітуацыяй?***

– Магчыма, раней сведчанне веры было больш выразным, бо проста пайсці ў касцёл ва ўмовах савецкага часу – гэта ўжо быў подзвіг, які натхняў на следаванне за Хрыстом. Цяпер удзел у нядзельнай св. Імшы часта становіцца руцінным. З гэтай практыкі знікае пошук і перажыванне Бога.

Таксама сучасныя тэндэнцыі прымушаюць маладых людзей баяцца прымаць рашэнні, што звязваюць іх на ўсё жыццё. Яны баяцца памыліцца, бо не хочуць быць высмеянымі. А з-за сацсетак пра гэтую памылку яшчэ і будзе вядома амаль усім. У Бога ўсё інакш: памыліўся – нічога страшнага, пачні нанова.

Я заўважыла, што і ў сем’ях дзяўчаты часта не сустракаюць падтрымкі, калі выказваюць цікавасць да кляштара. Бацькі ноччу ў клуб іх пускаюць, а на моладзевую сустрэчу ў кляштар – не. Не бачаць у гэтым каштоўнасці.

***– Сёння маем шмат жанчын старэйшага ўзросту і маладых дзяўчат, якія добра сябруюць з сёстрамі назарэтанкамі. Чым манахіні выклікаюць такую павагу сярод людзей?***

– Пра гэты лепш спытацца ў іх (*смяецца – заўв. аўт.*). Але дзякуй Богу, што манахіні прыцягваюць вернікаў! Думаю, нам, як і іншым супольнасцям, уласціва добразычлівасць, адкрытасць, любоў. Аднак, як казала наша сястра заснавальніца, мы нясём у свет ідэю, што мы ўсе адна сям’я. Нясём дух адзінства. А гэта заўсёды прываблівае.



Сёстры навіцыюшкі з Беларусі на сустрэчы з сёстрамі з Варшаўскай правінцыі. Польшча, 1995 г.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Ці можна займацца творчасцю ў нядзелю?

*grodnensis.by*

*Успомнім спачатку, як гучыць трэцяя Божая запаведзь: “Памятай дзень святы святкаваць”. Няма ніякай рэлігійнай традыцыі, у якой не было б святкавання свят. Для кожнага хрысціяніна асноўным святам з’яўляецца нядзеля.*

*Нядзеля – першы дзень тыдня. Дзень Панскі, у які ўваскрос Хрыстос. У жыцці чалавека такі вялікі дзень павінен ушаноўвацца праз адпачынак ад звычайных абавязкаў: працы, школы, паўсядзённых заняткаў. Але гэта не значыць, што мы можам паленавацца і даўжэй паспаць. Гэта не дзень гандлёвых цэнтраў або рынку. Кажуць, што замест таго, каб быць на нядзельнай Эўхарыстыі, хрысціяне ідуць на калектыўнае святкаванне, прысвечанае богу Мамоне, гэта значыць на нядзельныя закупкі. Яны замяняюць свой абавязак і неабходнасць на забавы. Гэтак жа, як, напрыклад, ежа “па-за домам” калісьці лічылася неабходнасцю (напр. падчас падарожжа), а сёння з’яўляецца спосабам сысці ад паўсядзённага жыцця. Кардынал Караль Вайтыла вучыў: “Калі на глебе якіх-небудзь дзеянняў чалавек дэмаралізуецца, калі распадаюцца шлюбы, калі сям’я перастае быць асноўным чалавечым асяроддзем па догляде за дзіцём, то такія дзеянні з’яўляюцца няправільнымі! Іх трэба адмяніць! Калі на глебе нейкіх дзеянняў [...] моладзь губляе ідэалы, усё бачыць у спажывецкім ключы, то такія дзеянні з’яўляюцца памылковымі! Яны не належаць да праграмы жыцця нацыі”.*

*Нядзеля павінна быць днём, калі мы ўдзяляем больш часу Богу (быць на нядзельнай Імшы і па магчымасці прыступіць да святых сакрамантаў, больш часу надаваць асабістай малітве, рэлігійным разважанням і ўпарадкаванню сваіх духоўных спраў). Святочны дзень таксама не дае магчымасці думаць аб штодзённасці і трагічных праблемах, а таксама рабіць свае справы. Гаворка ідзе пра абавязкі і працу, што выконваюцца дзеля нажывы ці ўзбагачэння, пра заняткі, якія абцяжарваюць або аддаляюць ад пакланення Богу. Яны перашкаджаюць святкаванню нядзелі. Такі грэх здзяйсняе не толькі той, хто выконвае гэтую працу, але і той, хто прымушае яе выконваць. Неабавязковая праца – гэта тая, якая не павінна выконвацца ў нядзелю і вынік якой вымяраецца прыкладзенымі намаганнямі або фізічнай стомленасцю. Язда на веласіпедзе, як правіла, з’яўляецца не працай, а адной з форм актыўнага адпачынку, але можа стаць працай, калі яе мэта – заробак (напр. дастаўка газет ці пакупак). Гэтак жа трэба разглядаць і іншыя фізічныя намаганні, напрыклад, вышыванне і вязанне як хобі ці як спосаб заробку, калі гэта робіцца для продажу. Мы павінны засяродзіцца на тым, што самае галоўнае ў жыцці.*

*Нядзеля – дзень, каб аднавіць нашу сувязь з Богам, паклапаціцца пра сваіх блізкіх і быць разам са сваёй сям’ёй. У гэты святочны дзень не варта забываць і аб справах міласэрнасці, служэнні хворым, бедным і старэйшым. Добра пражытая нядзеля дасць нам сіл, каб пераадолець усе нягоды цэлага тыдня. Чэрпаючы сілы з духоўнай крыніцы, мы будзем лепшымі, мудрэйшымі, мацнейшымі, а наша жыццё здабудзе сэнс.*

# ЦІ ДОБРА ТЫ ДУМАЕШ ПРА СЯБЕ?

**Прачніся! Чаму табе хочацца быць такім, як усе? Мець тое, што ёсць ва ўсіх? Чаму гэта важней, чым быць сабой – тым, якім ты быў створаны?**

*Бажэна Панасевіч*




На вуліцах так шмат людзей з паніклым позіркам. З боку – шэрая маса без прыкмет жыцця: знешні выгляд адлюстроўвае ўнутраны стан чалавека. І я, і ты ў гэтай шэрай масе. Але якімі нам быць у ёй: тымі, хто нясе радасць ці шэрасць – выбіраць нам.

Як жа не зліцца з натоўпам? Як ісці сваёй дарогай? Як адчуваць "смак жыцця" і вылучацца палаючымі радасцю вачыма і ўсмешкай?

Адказ ёсць. Трэба быць з крыніцай праўды, радасці і чыстай, бескарыслівай любові. Хто гэтая Крыніца? Гэта наш Нябесны Айцец. І Ён кажа: ***"І не дастасоўвайцеся да гэтага веку, але перамяняйцеся праз абнаўленне розуму, каб вы пазналі, якая воля Божая, што добрае, прыемнае і дасканалае"*** *(Рым 12, 2)*.

Такім чынам, каб быць сабой, трэба "перамяняцца праз абнаўленне розуму". Таму спачатку варта звярнуць увагу на тое, што ты думаеш на свой рахунак і што гаворыш сам пра сябе? А далей – зверыцца з тым, што думае і гаворыць пра цябе Бог.

Праверв, колькі разоў за дзень ты кажаш: ***"Ну я і дурань", "Я дрэнны муж/бацька/маці/дзіця", "У мяне рукі-крукі", "Я тоўсты", "Вечна я ўсё псую"*** і г. д. Але таксама ў нашай галаве могуць быць і чужыя словы, якія нехта сказаў у наш адрас: ***"Ты брыдкі", "Ты робіш занадта мала", "А вось у іншага лепш", "У іншага гэта ёсць, а ў цябе – не", "Нават не спрабуй – не выйдзе"…***

Калі ты з дня ў дзень усё сваё жыццё чуеш гэта і прымаеш, то ўявi, які груз няпраўды цягнеш на сабе? Што за гэты час стала з тваім духам?

Вораг можа скарыстацца іншымі людзьмі, каб атакаваць тваё пачуццё годнасці як чалавека цудоўна створанага. Бо напісана: ***"І стварыў Бог чалавека паводле свайго вобразу, паводле Божага вобразу стварыў яго"*** *(Быц 1, 27)*. ***"І ўбачыў Бог усё, што Ён стварыў; і было яно вельмі добрым"*** *(Быц 1, 31)*. Ты чуеш? Ты створаны па Божым вобразе і ты вельмі добры!

Бог таксама кажа: ***"Ты дзівосна зладжаны"*** *(параўн. Пс 138, 14)*, ***"Любоўю вечнай Я палюбіў цябе, таму Я захаваў міласць да цябе"*** *(Ер 31, 3)*, ***"Я выбраў цябе і не адкіну цябе"*** *(Іс 41, 9)*, ***"Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я"*** *(Мк 1, 11)*.

Вядома, цяжка паверыць у сваю каштоўнасць і сілу, калі ў нашым грамадстве прынята зважаць больш на свае недахопы і стала працаваць над імі. А тое, што добрае і што натуральна атрымліваецца, не шанаваць.

З дзяцінства мы навучаны, што хваліць сябе – гэта дрэнна і нясціпла. А бачыць свае слабыя бакі – мудра і прыгожа. Аднак прымнажаецца тое, на што скіравана ўвага.

Ці знаёма табе сітуацыя:

*– Ты сёння выдатна выглядаеш! Сукенка і макіяж табе вельмі ідуць!*

*– Ой! Ты што, сукенка старая, а пад вачыма сінякі!*

Праўда ў тым, што калі ты сам не можаш убачыць у сабе дабро, то і іншыя не змогуць разглядзець дары і таленты, дадзеныя табе Богам.

Падыдзі да люстэрка і паглядзі на сябе. Ці ж не цуд? Ты настолькі прызвычаіўся да свайго вобразу, што не заўважаеш сябе. А на цябе з таго боку люстэрка глядзіць цэлая клеткавая дзяржава са 130-цю трыльёнамі жыхароў-клетак. Прычым кожная клетка – гэта асобная мікракраіна, дзе ёсць свае заводы, камунікацыі, нават электрастанцыя. Калі паспрабаваць вырабіць чалавека з радыёдэталяў, атрымаўся б велізарны хмарачос. Так, ***"дзівосныя дзеі Твае, і душа мая ўсведамляе гэта"*** *(Пс 138, 14)*.

Клопат аб нашай самаацэнцы з'яўляецца нашым абавязкам. Каб зрабіць уласныя думкі пра сябе ветлівымі і прыязнымі, нам спатрэбіцца шмат цярпення, часу і… веры. Езус кажа: ***"Усё магчыма для таго, хто верыць"*** *(Мк 9, 23)*. І калі цяжка верыць, мы можам усклікнуць: ***"Веру, памажы майму бязвер'ю"*** *(Мк 9, 24)*. Так, усклікнуць і папрасіць аб дапамозе! Бо ***"Пан сам пойдзе перад табою і будзе з табою, Ён не адступіцца і не пакіне цябе. Не бойся і не палохайся"*** *(Дрг 31, 8)*.

А ўжо сёння ты можаш зрабіць першы крок у абнаўленні свайго розуму – пачаць дзякаваць. Дзякуй за тое, за што шчыра адчуваеш удзячнасць. Запісвай гэта і перачытвай! І ты ўбачыш, як шмат маеш!

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч, святар рымска-каталіцкага абраду*

***3 красавіка – каментарый да Евангелля на V Нядзелю Вялікага посту*** *(Ян 8, 1–11)*

### Позірк Езуса лечыць і ачышчае

*За некалькі дзён да смерці Хрыстос вымушаны яшчэ раз сутыкнуцца з чалавечай крывадушнасцю і ханжаствам. Фарысеі – спецыялісты па пошуку зла ў іншых – прывялі да Яго грэшную жанчыну, якую злавілі на чужаложстве. У Старым Запавеце чужаложства каралася смерцю (Лев 20, 10; Дрг 22, 22). Гэтае пакаранне ўжо даўно не ўжывалася. Але ў дадзеным выпадку яго збіраліся выкарыстаць як пастку. Што скажа Езус? Калі Ён загадае вызваліць жанчыну, то зняважыць закон і праявіць празмерны лібералізм. Калі ж загадае каменаваць яе, то акажацца нялюдскім і неміласэрным, страціць давер народа. Па задуме фарысеяў, Хрыстос павінен быў быць дыскрэдытаваны незалежна ад адказу.*

*І што робіць Езус? Не асуджае жанчыну і не выносіць прысуд, хаця толькі Ён і мае на гэта права. Езус схіляецца і піша на зямлі нейкія знакі. Ён маўчыць. Маўчанне Хрыста супакойвае эмоцыі натоўпу, прагнага крыві. Маўчанне спрыяе таму, што на гэтую запалоханую жанчыну сыходзяць спакой і ласка. У маўчанні ў праўдзе пра сябе стаяць таксама фарысеі. Яны забыліся, што закон паходзіць ад Бога, таму ён з любові і павінен служыць чалавеку, а не станавіцца самамэтай. Забыліся таксама, што закон датычыць усіх. Яны бачылі чужы грэх, але не заўважалі ўласную пыху. Глыбокае маўчанне Езуса дазволіла ім прыслухацца да ўнутранага голасу, які яны душылі. Збаўца дае ім час. Гэты час неабходны, каб перавесці погляд з іншых на сябе. Каб прызнаць, што ты такі ж, а можа, нават больш грэшнік, чым чалавек, якога судзяць.*

*Дзякуючы позірку Езуса, фарысеі адкрываюць праўду пра сябе. Пранікаюць унутр сябе. Жанчына таксама абавязана сваім жыццём і збаўленнем позірку Езуса, таму што ён заўсёды адкрывае тое, што ў чалавеку найлепшае і найпрыгажэйшае, і дае сілы для перамянення і святога жыцця. Гэты позірк кажа: "Я прызнаю тваё права быць тым, кім ты ёсць. Але я хацеў бы, каб ты быў тым, кім можаш быць насамрэч".*

*Давайце сузіраць позірк Езуса. Гэта дазволіць нам ачысціць свае вочы. Бо "толькі калі мы ачысцім вочы, з нашых рук пачнуць выпадаць камяні" (А. Пранцата).*

*А. Андрэй Крот, святар грэка-каталіцкага абраду*

***10 красавіка – каментарый да другога чытання на Пальмовую нядзелю*** *(Флп 2, 6–11)*

### Божае прыніжэнне

*У тэалогіі існуе такое паняцце – "кенозіс". З грэчаскай мовы гэтае слова перакладаецца як "спусташэнне, прыніжэнне". Бог прынізіў сябе, калі стаў Чалавекам ды памёр на крыжы. Пра кенозіс Бога Царква лацінскай традыцыі чытае ў Пальмовую нядзелю ў фрагменце Паслання да Філіпянаў: "Езус Хрыстус, будучы ў постаці Бога, не скарыстаў з таго, каб быць нароўні з Богам, але выракся самога сябе, прыняўшы постаць слугі, прыпадобніўшыся да людзей. І з выгляду стаўшы як чалавек, прынізіў сябе, будучы паслухмяным ажно да смерці, смерці крыжовай" (2, 6–8). Аб прыніжэнні Хрыста ў візантыйскай традыцыі надзвычай падрабязна і ёміста расказвае Анафара (эўхарыстычная малітва) Літургіі св. Базыля Вялікага, якая служыцца ў нядзелі Вялікага посту, Вялікі чацвер ды Вялікую суботу. Аўтар гэтай малітвы падкрэслівае: уцелаўленне адбылося дзеля людзей. Ён падрабязна расказвае, што мы атрымалі дзякуючы Божаму прыніжэнню: "Пажыўшы на гэтым свеце, даўшы збаўленныя прыказанні і адвярнуўшы нас ад ідальскай маны, Ён прывёў нас да пазнання Цябе, праўдзівага Бога і Айца, набыўшы нас Сабе і зрабіўшы нас людзьмі выбранымі, уладарным святарствам, народам святым; і ачысціўшы нас вадою і асвяціўшы Духам Святым, даў Сябе ўзамен за смерць, пад уладай якой мы, зняволеныя грахом, прабывалі".*

*Парадокс: прыніжэнне Хрыста, пра якое мы будзем асаблівым чынам разважаць у найбліжэйшы тыдзень, з'яўляецца аптымістычнай падзеяй. Аптымістычнай і для Хрыста, і для людзей. "Зышоўшы Крыжам у пекла, каб напоўніць сабою ўсё, Ён суняў болі смерці; і ўваскросшы на трэці дзень – бо немагчыма было ўтрымаць у тленнасці Валадара жыцця – устанавіў шлях да ўваскрасення кожнаму чалавеку, сам стаўшыся першынцам з тых, што заснулі, першародным з мёртвых, каб мець першынства ва ўсім", – гаворыцца ў Анафары св. Базыля Вялікага. Думаю, сёння нам, як ніколі, патрэбны аптымізм. Таму, суперажываючы Хрысту (не толькі Таму, які быў укрыжаваны калісьці, але і Таму, якога сёння крыжуюць у Яго братах ды сёстрах), памятайма пра радасць Уваскрасення, што чакае нас неўзабаве.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ АРЦЫБІСКУПУ ЮЗАФУ СТАНЕЎСКАМУ**

*з нагоды дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем, каб усё Ваша жыццё было напоўнена Божым святлом, любоўю і супакоем. Няхай Хрыстос будзе Вам адзіным і сапраўдным Арыенцірам, а Найсвяцейшая Маці – чулай Апякункай.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ АРЦЫБІСКУПУ ЮЗАФУ СТАНЕЎСКАМУ**

*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, сіл, душэўнага супакою і толькі радасных хвілін. Няхай Бог адорвае Вас патрэбнымі ласкамі, а Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай паслугі.*

*Хрэсніца Ганна з сям'ёй*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ ГАВЕЦКАМУ**

*з нагоды 60-годдзя з дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, цярплівасці і стойкасці ў жыцці, душэўнага супакою, вытрымкі, поспехаў і здзяйснення мар, апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай святы заступнік падтрымлівае Вас сваім прыкладам і заўсёды дапамагае пераадольваць цяжкасці.*

*Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка" парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РЫЧАРДУ ПЭРЧАКУ**

*з нагоды імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай святы заступнік штодзённа Вамі апекуецца, Маці Божая ахінае плашчом сваёй мацярынскай пяшчоты, усемагутны Бог шчодра адорвае сваімі ласкамі, а Святы Дух напаўняе дарамі кожны дзень Вашага жыцця і святарскай паслугі.*

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Дзітвы*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯНУ ГАВЕЦКАМУ**

*з нагоды юбілею з дня нараджэння перасылаем мноства найлепшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, веры, надзеі, добразычлівых людзей побач, шчодрых Божых ласкаў і толькі радасных хвілін у Вашым жыцці. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус напаўняе жыццё любоўю, а Марыя заўсёды апекуецца Вамі. Няхай Бог узнагародзіць Вас за нястомную працу і малітву.*

*Парафіяне касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗМІТРЫЮ СЯДЛЕЦКАМУ**

*з нагоды імянін перасылаем шмат сардэчных пажаданняў: здароўя, радасці, душэўнага супакою і добрых людзей побач. Няхай Пан Езус прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца і адорыць бласлаўленнем і ласкамі на доўгія гады. Жадаем апекі Маці Божай і святога заступніка, а таксама шчодрых дароў Святога Духа.*

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Канвелішкаў*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЮРЫЮ КУЗЬМІЧУ**

*з нагоды 12-ай гадавіны служэння ў нашай парафіі перасылаем шчырыя пажаданні, спалучаныя з нашай штодзённай малітвай. Няхай міласэрны Бог адорыць Вас патрэбнымі ласкамі, Святы Дух асвячае розум і сэрца, а Анёл-ахоўнік чувае побач у кожнае імгненне Вашага жыцця. Мы просім для Вас, наш добразычлівы, мудры душпастыр, моцнага здароўя, здзяйснення ўсіх Вашых мар і жаданняў, плёну ў душпастырскім служэнні. Мы вельмі ўдзячны Вашым бацькам за тое, што выхавалі такога добрага сына святара.*

*З павагай і ўдзячнасцю Касцёльны камітэт і вернікі Навадворскай парафіі*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ УЛАДЗІСЛАВУ СУРВІЛУ**

*з нагоды дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Бог благаслаўляе Ваш святарскі шлях, Маці Божая штодзённа апекуецца, а Святы Дух нястомна адорвае сваімі дарамі. Жадаем нязгаснага запалу ў душпастырскай паслузе, усмешкі на твары, сіл і натхнення ў служэнні Богу і людзям. Дзякуем за добрыя словы, уважлівасць і чуласць.*

*Вернікі парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў в. Войстам*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ІГАРУ АНІСІМАВУ**

*з нагоды надыходзячага Дня святара перасылаем сардэчныя віншаванні.*

*Ксёндз Ігар наш! Божы Каплане!*
*З вялікай радасцю віншуем.*
*З касцёла ўсе парафіяне –*
*Любоў Вам шчырую даруем.*
*Няхай Вас Бог заўжды шануе,*
*Ад бедаў хай асцерагае,*
*Здароўе, мудрасць Вам даруе,*
*У працы Вашай памагае.*
*Нібы Анёлак, мама Ваша*
*Дапамагчы ўсім гатова,*
*Нібы яна матуля і наша.*
*Няхай заўжды будзе здарова!*
*Вялікі дзякуй Табе, Божа,*
*Што Ты ксяндза нам змог прысляць!*
*І з рук яго цяпер мы можам*
*Езуса да сябе прыняць.*
*А нам патрэбна ўсім маліцца,*
*Каб Бог сцярог свайго Каплана...*
*І Божы свет няхай іскрыцца*
*Ад Вас, Ксёндз Ігар паважаны!*

*Парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ ШЭМЕТУ**

*з нагоды дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў і ўсіх дароў Святога Духа. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены цеплынёй, радасцю, дабрынёй, моцай, любоўю і надзеяй, вера з кожным днём толькі ўзмацняецца, а ўсё, што было запланавана, здзяйсняецца з дапамогай Бога і добрых людзей.*

*Вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## АНОНСЫ

У сувязі з судовымі працэсамі ў Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі, **спадара Дупліцкага Андрэя Уладзіміравіча,** які 17.08.1991 г. у парафіяльным касцёле Унебаўзяцця НПМ у Адэльску ўзяў шлюб **са спадарыняй Красочка Валянцінай Зігмунтаўнай,** а таксама **спадарыню Кізюкевіч (Сеплівую) Алену Мікалаеўну,** якая 22.06.1992 г. у парафіяльным касцёле Узвышэння Святога Крыжа ў Гродне ўзяла шлюб **са спадаром Кізюкевіч Віктарам Сцяпанавічам,** просяць звярнуцца ў сядзібу Касцёльнага суда ў Гродне па адрасе: ***вул. К. Маркса, 4, або па тэлефоне: (8 0152) 61-05-35.***

*Чытачоў, якія ведаюць адрас пражывання ці валодаюць якой-небудзь інфармацыяй аб месцы побыту* ***спадара Дупліцкага Андрэя Уладзіміравіча ці спадарыні Кізюкевіч (Сеплівай) Алены Мікалаеўны,*** *просяць паведаміць аб гэтым у Касцёльны суд.*

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

У Івянцы ў францішканскім кляштары пры касцёле св. Міхала Арханёла прайшлі велікапосныя рэкалекцыі для моладзі на тэму "Я ведаю, у каго паверыў". Хлопцы і дзяўчаты, якія прыехалі з розных мясцін Беларусі, мелі магчымасць як супольна ўзбагаціцца духоўна, так і правесці час у "пустыні".

Асобным пунктам рэкалекцый стала знаёмства маладзёнаў з крыжам з касцёла св. Дам'яна. Гэты крыж вельмі цесна звязаны са св. Францішкам з Асізі, бо менавіта з малітвы перад ім распачалося яго навяртанне. Крыж з касцёла св. Дам'яна – гэта ікона, якая прадстаўляе Езуса трыумфуючага; укрыжаванага, але жывога і праслаўленага.

Напрыканцы сустрэчы хлопцы і дзяўчаты адзначылі, што дзякуючы рэкалекцыям змаглі атрымаць палёгку ў такі складаны час і проста духоўна адпачыць ды аднавіцца.




**каталіцкі рэлігійны часопіс**

Рэкалекцыі – гэта духоўныя практыкаванні, мэта якіх – вяртанне чалавека да сапраўднай нармальнасці, аздараўлення ўсіх узроўняў жыцця, выпраўлення адносін з Богам і людзьмі. У штодзённасці мы звычайна робім шмат памылковых выбараў, з-за якіх усе сферы нашага жыцця, душы і цела разбалансоўваюцца. Гэта прыводзіць да пустой траты энергіі, абяссільвання, страты жыццёвых арыенціраў, што знешне праяўляецца ў апатыі, абыякавасці, хістаннях паміж нервовай мітуснёй і нежаданнем дзейнічаць.

У выніку падыход да штодзённых заданняў становіцца павярхоўным, адсутнічаюць матывацыя і сілы, губляецца разуменне сэнсу. Каб не падводзіць сваё жыццё да падобнага краху, неабходна рэгулярна праходзіць своесаблівы "духоўны мегагляд" свайго жыцця, спалучаны з інтэнсіўным лячэннем. Для гэтага і патрэбны рэкалекцыі.




**беларуская рэдакцыя**

Ватыканскае радыё актывізавала кароткахвалевае вяшчанне ва Украіну і Расію. Да ўжо існуючых дзвюх штодзённых трансляцый, ранішняй і вячэрняй, асобна на рускай і ўкраінскай мовах, раніцай дадаецца дваццаціхвілінная трансляцыя як на Маскву, так і на Кіеў.

Рашэнне было прынята аднадушна кіраўніцтвам Дыкастэрыі па камунікацыі, каб у гэты драматычны перыяд несці надзею і словы Папы, дапамагаць у чытанні фактаў праз прызму Евангелля.

"Трансляцыі Ватыканскага радыё, інтэрнэт-старонкі і сацсеткі Vatican News на 51 мове, уключаючы англійскую і італьянскую на мове жэстаў. Мэта ўсяго гэтага – дапамагчы людзям адчуць, што яны не самотныя, што перамагае сіла малітвы", – адзначыў Масіміліяна Мэнікэці, адказны за працу Ватыканскага радыё і Vatican News.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

Велікапосная пастырская сустрэча адбылася ў Лідзе, сабраўшы 40 духоўных асоб. Падчас сустрэчы духавенства асабліва малілася за братэрскі ўкраінскі народ, які пакутуе ад вайны. Удзельнікі дня засяроджання прасілі Бога аб міры для суседняй краіны і міры ва ўсім свеце.

Прысутныя ўдзельнічалі ў набажэнстве Крыжовага шляху, на кожнай стацыі разважаючы над сваім жыццём, і таксама ўзгадалі 9 святароў-мучанікаў Лідчыны, якія загінулі ад рук нямецка-фашысцкіх захопнікаў у часы II Сусветнай вайны. Адзначылі, што пакутнікі прынеслі яскравае сведчанне веры, а таксама вучаць сённяшняе духавенства сведчыць пра Езуса Хрыста.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ААТ "Брэсцкая друкарня"**, 224013 Брэст, прасп. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўныя друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.